Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem. Цана 25 гр

№ 2 (4) Вільня, 25 Траўня 1934 г. Год II

# НОВЫ ШЛЯХ

Орган Беларускіх Нацыянал-Соцыялістаў

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Кальварыйская 16—2 (Wilno, Kalwaryjska 16 — 2). Рэдакцыя адчынена штодня ад 10 да 3 г. дня.

„Новы Шлях" выходзіць раз у месяц, каштуе на год 2 зл. 50 гр. на паўгоду 1 зл. 50 гр. на 3 месяцы 70 гр. Цана абвестак паводле ўмовы.

## НАШЫЯ ТЭЗЫ

1. Верым, што беларускі народ, каторага даўнейшая культура кіравала вялікай Беларуска-Літоўскай дзяржавай, які падчас сваей палітычнай сьпячкі, паўсталай праз ганебнае рэнэгацтва тагачасных шляхоцкіх павадыроў нацыі, даў паляком Міцкевічаў, Касьцюшкаў, маскалём — Дастаеўскіх, Глінкаў — ёсьць здольным па сваей уласнай волі сарганізаваць сваё палітычнае і гаспадарчае жыцьцё і стацца незалежным і сувэрэнным сябрам у сям'і вольных народаў.

Верым, што толькі незалежнае, сувэрэннае Беларускае Гаспадарства забясьпечыць беларускім працоўным масам матэр'яльны дабрабыт і пазволіць разьвіць усе духовыя вартасьці Беларускага Народу.

Дзеля гэтага:

Нашай мэтай—незалежная, бясклясавая працоўная Беларуская Рэспубліка ў яе этнаграфічных межах.

2. Наш соцыяльна-палітычны сьветапагляд—Нацыянальны Соцыялізм, каторы імкнецца стварыць новы дух Беларускай Нацыі, дух, што заб'е ў беларусаў астаткі нявольніцкай псыхікі і палхне да самаахвярнасьці і безагляднага, гэраічнага змаганьня за правы Беларусі, якой гонар зьяўляецца асабістым гонарам кожнага беларуса. Дабро Беларускай Нацыі і дабрабыт кожнага працоўнага беларуса ёсьць першай і апошняй мэтай кожнага нашага чыну.

У аснову гаспадарчага жыцьця мы ставім працу і права кожнага беларуса на поўнае карыстаньне з пладоў ягонай працы. Усякаму вызыску ня можа быць мейсца ў будучай Беларускай Працоўнай Рэспубліцы. Капіталістычная і лібэральная сыстэма гаспадаркі мусіць быць зьнішчана. Зямля і яе прыродныя багацьці ёсьць уласнасьцяй Нацыі, якая надзяляе зямлю, тым грамадзянам, каторыя на ёй працуюць у коопэратыўных аб'яднаньнях, або індывідуальна. Пляновасьцяй прадукцыі і яе распадзелам кіруе нацыя.

Беларускі сарганізаваны народ праз сваіх павадыроў вырашыць усе дробязі грамадзкага і палітычнага ладу ў сваім незалежным краі. У сучасным-жа палажэньні ўсе спрэчкі на гэту тэму мы залічаем да пустаслоўнага доктрынэрстваа, шкоднага для беларускага народу, як разьбіваючага ягоную салідарнасьць і гэтым самым аслабляючага яго сілы ў змаганьні за нацыянальнае і соцыяльнае вызваленьне.

3. Свае адносіны да іншых народаў, насяляючых нашыя землі, мы ўзалежніваем ад тае эканамічнае і палітычнаеролі, якую паасобныя народы ў нас выконваюць.



Адзіным нацыянальным фронтам будзем змагацца з варожымі да беларусаў сіламі і лучыцца ў братэрскія саюзы з сіламі для нас прыязнымі. Нацыянальнае ўсьведамленьне нашага народу і вызваленьне яго ад эксплёатацыі ліхвярскага і гандлёвага, пераважна жыдоўскага, капіталу, закабаліўшага наш край—зьяўляецца нашым першым баявым заданьнем, да каторага мы безадкладна прыступаем і каторае будзем праводзіць шляхам разбудовы беларускай коопэрацыі і наагул усякіх беларускіх гаспадарчых пляцовак.

4) Да кожнай рэлігіі адносімся ў залежнасьці ад карыснасьці або шкоднасьці яе для Беларускае Нацыі.

Сьцьвярджаем факт, што каталіцкае і праваслаўнае духавенства ў нашым краі было найгалаўнейшым чыньнікам полёнізацыі і русыфікацыі беларускага народу і падтрымоўвала інтарэсы абшарнікаў і капіталістаў. Такая, шкодная беларускай справе, дзейнасьць заўзята праводзіцца і цяпер.

Дзеля гэтага мы будзем вясьці рашучую барацьбу з польска-каталіцкім і маскоўска-праваслаўным клерам датуль, пакуль ён не перастане быць шкоднікам беларускай нацыянальнай справы.

**Арганізацыйная Камісія Беларускага Нацыянал-Соцыялістычнага Актыву.**

Старшыня: **Фабіян Акінчыц**; Сэкратар: **Уладыслаў Казлоўскі**;

Сябры: **Антон Данусэвіч, Уладзімір Загорскі, Язэп Кратовіч.**

# НА ПЕРАЛОМЕ

Тое, што некаліс было бажышчам дэмакратыі—аказалася банкротам, ня здольным задаволіць патрэбаў сучаснага жыцьця, і вывясьці народы з эканамічнага і соцыяльнага тупіку, у каторым яны апынуліся.

І таму мы зьяўляемся сьведкамі, як парлямэнтарна-дэмакратычная сыстэма рушыцца на ўсей лініі.

Пачалося з Расеі, каторая рэзка з ёю разышлася, устабілізаваўшы пачварную дыктатуру камуністычнай партыі, вынырнуўшай на паверхню жыцьця падчас усеагульнай ваеннай завярухі.

Новая палітычная ідэолёгія, каторая атрымала назоў фашыстоўскай, захоплівае ўсё шырэйшыя колы грамадзянства. Прычыну гэтага, для многіх неспадзяванага зьявішча, трэба шукаць у поўнай няўдольнасьці парлямэнтарна-дэмакратычнага рэжыму вырашыць нават самыя элемэнтарныя заданьні сучаснай хвіліны. У меру ўскладненьня гэтых заданьняў, выкліканых паглыбленьнем крызысу і бэспрацоўем шматмільёнавай арміі работнікаў—сьвет апынуўся перад канечнаю і жыцьцёваю неабходнасьцю перабудовы ўсяго ладу соцыяльна-эканамічных суадносін на больш дасканальных падставах.

Да гэтакай перабудовы немагчыма прыступіць пры ўмовах, калі ў дзяржаўным жыцьці няма пэўнай, працяглай праводнай ідэі, калі курс дзяржаўнага жыцьця залежыць ад выпадковай большасьці ў парлямэнце, які складаецца з „завадовых“ палітыкаў, ператварыўшых сваё пасланьне ў выгодную прафэсію. Другой з ліку найгалаўнейшых прычынаў, якія пхаюць сучасныя народы ў кірунку „фашызаваньня“ дзяржаўнага жыцьця—зьяўляецца баязьнь анархіі і развалу, каторыя могуць наступіць у выніку стасаваньня прынцыпу нічым не агранічаных свабодаў. Асабліва не на мейсцы гэтыя „свабоды“ цяпер, калі ўзмоцнілася дзеяльнасьць анарха-камуністычных сілаў, выразна імкнучыхся накінуць усяму сьвету сваю дыктатуру. „Амаль заўсёды ў гісторыі бывае так“—кажа расейскі гісторык Кастамараў: „што свабода, асягнуўшы найвышэйшай ступені разьвіцьця, зьніштажае ўсякія граніцы, губіць сябе, дапушчаючы такія стыхіі, каторыя карыстаючыся са слабых бакоў грамадзкага строю, бяруць гару над усім і потым пануюць ужо насільна.“ (К. Костомаров. Историческія монографій т. III). Гэта пачынаюць разумець нават тыя з эўрапэйскіх народаў, каторыя далі нам клясычныя прыклады дэмакратычнага парлямэнтарызму, паступова стасуючы ў сябе „фашызм.“

Адзінаю краінаю, дзе ў чыстым выглядзе ўтрымаўся „дэмакратычны“ рэжым, зьяўляецца, на Эўрапэйскім контынэнце—Францыя. Але для нас ясна й тое, што на даўжэйшы час застацца там ён ня зможа, дзякуючы нутраным супярэчнасьцям, якія яго разьядаюць, асабліва-ж у галіне бюджэтовай гаспадаркі.

Вытварылася такое становішча, калі ні адзін урад ня можа правесьці ў жыцьцё грунтоўнай рэформы дзяржаўных фінансаў Францыі і таму мы бачым там пастаянную міністэрскую чэхарду, аслабляючую дзяржаву.

Усё, што творыцца на сьвеце, мае свае

глыбокія прычыны. Заданьне дасьледчыка палягае на дасьледаваньні гэтых прычынаў і больш дакладнага акрасьленьня кірунку, у якім разьвіваюцца гістарычныя падзеі.

Сучасны „фашыстоўскі“ наварот таксама мае глыбейшыя падставы, якія нам трэба пазнаць.

Жыцьцё эўрапэйскіх народаў уступіла ў фазу грунтоўнай палітычнай перабудовы, каторая вымагаецца соцыяльна-эканамічнымі прычынамі.

Але гэтая перабудова будзе зусім не такою, якую хацелі-б правесьці ў жыцьці прававерныя вучні К. Маркса.

Наглядаюцца „адхілы“ ад марксоўскай праграмы і гэтыя „адхілы“ настолькі вялікія, што ня можа быць і мовы пра сусьветную дыктатуру пролетарыяту, за каторай сьледам павінна была ісьці дыктатура жыдоўска-камуністычная.

Верх бярэ ідэя нацыянальна творчая, злучаная з соцыялістычнымі лёзунгамі практычнага зьместу, якія магчыма і канешна патрэбна зьдзейсьніць у сучасную эпоху. Палітычная перабудова Эўропы яшчэ не закончылася і на гэта патрэбна ня менш дзесяцігодзьдзя.

Магчыма, што гэты працэс пройдзе праз крывавую фазу ваенных забурэньняў. Але баяцца іх мы беларусы не павінны, як не баіцца іх той, каму няма чаго траціць. Вайна зьяўляецца, фактычна, тым „рэгулятарам“ які напраўляе палітычнае жыцьцё народаў, які разбурае ўстабілізаваныя несправядлівасьці. Лічым, што такая вайна прыгнечаным народам страшнаю быць ня можа і таму мы ня зьбіраемся крывіць душою разводзючы на кісла-салодкія пацыфістычныя тэмы, як гэта робяць нашыя палітычныя ворагі...

У сучасную, запраўды пераламовую эпоху, калі доволі выразна выявіўся фашыстоўскі напрамак гістарычных падзеяў, трэба разрозьніваць дзьве галоўныя катэгорыі фашыстоўскіх рэжымаў.

У адным выпадку падгніўшы парлямэнтарны рэжым падае пры атсутнасьці агульна—нацыянальнай ідэі, каторую быў-бы захоплены ўвесь народ ад самых нізоў і да вярхоў.

Атсутную агульна-нацыянальную ідэю замяняюць тады звычайныя ашуканчыя лёзунгі, бяз зьместу і сэнсу, каторыя пушчаюцца ў народ выключна ў мэтах самарэклямы тых, хто захоплівае ў свае рукі дзяржаўную уладу і праклямуе сябе „павадыром“.

Кіруючая роль дастаецца ў такіх выпадках жыдам і палітычным прайдохам, навокал каторых арганізуецца лагер шахраяў і скурнікаў, выдумліваючых для апраўданьня сваіх злачынстваў адпаведную „ідэолёгію“.

Другім тыпам „фашызму“ зьяўляецца такі палітычны лад, каторы апіраючыся на волю народа,—мае пазытыўна-творчую праграму, здольную да рэканструкцыі сучасных ня толькі грамадзка-палітычных, але і соцыяльна-эканамічных адносінаў.

Такі „фашызм“ выявіўся ў Нямеччыне, каторая галасаваньнем 12 лістапада 1933 г. яго ўзаконіла, бо з 44.464.420 асоб, маючых права голасу—40.618.147—ці 93,4% выказалася за гітлероўскі рэжым. Што-б ні казалі ў гэтай справе праціўнікі „нацi“—цыфры гэтыя прамаўляюдь самі за сябе...

Тут мы маем дачыненьне з яўна выказанаю воляю ўсяго народу, ідэолёгічна, аб'яднанага ў нацыянальным маштабе.

Гэтакі „фашызм“ будзе апраўданы гісторыяю, бо ён творыць новыя формы народнага жыцьця, творыць саму гісторыю, адчыняючы ў ёй новую эпоху.

Прыклад, дадзены Нямеччынаю, знаходзіць спогад ва ўсім сьвеце і тое, што пазбаўлена нутраногa соцыяльна — творчага зьместу будзе зьмецена з твару зямлі.

Мы не палохаемся таго, чым стараюцца застрашыць нас марксысты, бо добра ведаем, што сучасны прагніўшы „дэмакратызм“ засуджаны на пагібель і на яго мейсца прыдзе іншы дзяржаўны лад.

Паскольки гэта залежыць ад людзкай волі, мы павінны імкнуцца да таго, каб амінуць камуністычную дыктатуру, пазбыцца розных іншых авантурніцкіх дыктатураў, ня маючых нутраного ідэолёгічнага зьместу і пастарацца ўстанавіць рэспубліку працоўных, прасякнутую нацыянальна-соцыялістычнаю ідэолёгіяю.

Верым, што зьдзейсьненьне такога „фашызму“ адрадзіла-б наш народ і вывяла-б яго на шырокі шлях гістарычнага разьвіцьця.

А гэта й ёсьць галоўнаю нашаю мэтаю.

Ф. А.

# STRACH PIERAD ASWIETAJU.

Buržuazna-kapitalistyčny świet pierapoŭnieny roznymi paradoksami.

Adnym z najbolš jaskrawych paradoksaŭ zjaŭlajecca „lišak“ intelihentnych pracaŭnikoŭ, katorych kiraŭniki sučąsnych dziaržaŭ nia wiedajuć kudy padzieć.

Asabliwy hety „lišak“ kidajecca ŭ wočy ŭ Polšču i tamu „pawažnyja“ buržuaznyja publicysty ŭ swaich nia mienš „pawažnych“ časopisiach razważajuć nad tym, jak pazbycca lekaroŭ, inžynieraŭ, ahranomaŭ, praŭnikaŭ i inšych specyjalistaŭ, jakich „pradukujuć“ pol skija uniwersytety.

A kali niama kudy ich padzieć, to što treba zrabić, kab prynamsi źmienšyć wydajnaść nawukowych ustanoŭ, štohod wykidaju-

čych niepatrebnych ludziej z nawukowymi kwalifikacyjami.

Hazety biadujuć, što ŭ hetym hodzie, naprykład, adzin tolki Wilenski Uniwersytet wypuściŭ 83 lekaroŭ i 26 lekaroŭ kabiet, jakija siadziać amal usie biaz pracy.

Adnak najbolš cikawym u hetych usich razważańniach źjaŭlajucca prajekty niekatorych publicystaŭ, prapanujučych źmienšyć lik nawukowa-kwalifikawanych specyjalistaŭ šlacham „arystokratyzacyi“ školaŭ.

Na ich rozum, treba, kab u siarednija i wyšejšyja školy pryjmalisia tolki asoby „arystokratyčnaha pachodżańnia“. U hetaki sposab, dziakujučy specyjalnamu padboru źmienšyłasia-b kolkaść adukowanych ludziej i wytwarylasia-b „rasa“ zapraŭdnych intelektualistaŭ.

Pryncypowa prapanujecca pryblizna toje samaje, što my nahladajem u Sawietach, z toju tolki roźnicaju, što tut u nas proletarskaje pachodżańnie zamianiajecca arystokratyčnym.

Haworačy praściej — u školach pawinny wučycca tolki dzieci bahatych baćkoŭ. Biaručy pad uwahu specyfičnyja abstawiny Polščy, dzie najbolš bahatym narodam jość żydy—zusim lohka zrazumieć da čaho moża prywieści hetakaha rodu „arystokratyzacyja“ školaŭ. Z našaha punktu hledżańnia niama nijakaj cikawaści ŭ takich razważańniach, jakija stajać za ahraničeńnie dostupu ŭ školy pracoŭnym masam, bo ničoha nowaha ŭ hetym niama.

My dobra wiedajem, što pry sučasnym składzie socyjalna-palityčnych siłaŭ hety dostup dziakujučy materjalnym abstawinam i biez taho zwiedzieny da nula. Pisali-ż, naprykład što ŭ hetym školnym hodzie na Krakaŭski Uniwersytet nie pastupiŭ aniwodzin sialanski syn. My pradbačym, što ŭ bliżejšyja časy budzie jašče harej. Chutka pierad sialanskimi dziaćmi buduć začynieny dźwery nia tolki wyšejšych, ale i siarednich školaŭ, jak začynieny jany dla biełarusaŭ.

Pryčyna adna — adsutnaść srodkaŭ na niepamierna darahija školy.

Tam, kali ničoha nia źmienicca na lepšaje, buduć wučycca wyklučna dzieci polskich uradoŭcaŭ i żydy.

Ale nas u hetaj sprawie cikawić tolki adno: — ci zapraŭdy my źjaŭlajemsia świedkami „nadpradukcyi“ intelihentnych siłaŭ.

Kali da intelihentnych siłaŭ zaličać adnych uradoŭcaŭ, to zapraŭdy heta budzie tak.

Sama polskaja presa bje z henaj pryčyny trywohu, dawodziačy, što twórčaja inicyjatywa kirujučych kołaŭ zaniata wyšukwańniem, što-b heta można było jašče zrealizawać, što-b jašče stwaryć nowaha, jakija-b znajšli nowyja funkcyi nieabchodnyja z punktu hledżańnia dziarżaŭnych interesaŭ, kab znoŭ stwaryłasia niekalki tuzinaŭ nowych pasadaŭ. („Prawda“ 26 listapada 1933 r.).

„Pa sutnaści rečy“ każa dalej taja-ż samaja hazeta: „na heta traciacca ŭsie wysiłki, myśli i prajekty plejady h. zw. „ekanamistaŭ“, jakija działbucca ŭ našym ekanamičnym życci...“

Drenna, jak bačym, abstajać sprawy ŭ buržuazna-kapitalistyčnaj haspadarcy, čaho nawiet jaje ideolohi nia mohuć ukryć. Nastolki drenna, što ŭ toj čas jak kirujučyja wiarchi nia wiedajuć što rabić z fachowymi siłami i wydumliwajuć niepatrebnyja pasady, my nahladajem niezadawaleńnie samych elementarnych patrebaŭ nasielnictwa.

Woźmiem, naprykład, takuju ważnuju halinu jak acharona pubiičnaha zdaroŭja,

Koźnamu wiedama, što ŭsłuhami lekaroŭ mohuć karystacca tolki bahatšyja klasy.

Wiaskowaje nasielnictwa i haradzkaja biednata ŭžo daŭno pierajšli pad apieku znacharoŭ i znacharak.

Redka chto moża apłacić košty lačeńnia ŭ balnicach, a jašče radziej zaprasić na wiosku lekara i kupić lakarstwa.

Nie pad siłu... I tamu wioska wymiraje, wymiraje nia tolki ad haładuchi ale j ad medycynskaha niedahladu.

Faktyčna, lekaroŭ u nas nie chapiła-b, kab pastawić acharonu narodnaha zdaroŭja na bolš racyjanalnych i sprawiadliwych padstawach.

Dzie ŭ nas ambulatornyja punkty, dastupnyja dla ŭsich?

Dzie hramadzkija ci samaŭradowyja apteki?

Dzie chacia-ż by toje, čym karystałasia nasielnictwa pierad wajnoju ŭ halinie medycynskaj dapamohi?

Ničoha niama. I tamu niejak niepryzwaita wyhladajuć usiakija razważańni na temy roznych „liškaŭ“.

A ciapier woźmiem inšuju halinu.

Dzie i kali wialisia ŭ nas publičnyja raboty ŭ bolš šyrokim maštabie?

Dzie melioracyja? Dzie ŭzarowyja haspadarki? Dzie tyja ahranomy, katoryja pawinny byli-b šmat čaho dobraha nawučyć našaha sielanina?

Roznych specyjalistaŭ u nas wielmi mała, dyj tyja siadziać biaz pracy.

Można było-b prywieści šmat inšych prykładaŭ, z jakich lohka pierakanacca, što pry racyjanalnym haspadarawańni adčuwaŭsia-b wostry niedachop intelihentnych i fachowych siłaŭ, zdolnych da twórčaj pracy.

Tolki tamu, što sučasnaja socyjalna-ekanamičnaja systema zajšła ŭ biazwychadny tupik, my i spatykajemsia z takim dziŭnym źjawiščam, kali świeżyja fachowyja siły, patrebnyja dla hramadzianstwa, wyklikajuć niesupakoj u buržuaznych publicystaŭ.

Nienarmalnyja adnosiny, jakija wytwarylisia ŭ hramadzkim życci narodaŭ, prywodziać da jaskrawa-paradoksalnych źjawiščaŭ, na katoryja jašče 100 hod tamu nazad źwiarnuŭ uwahu pioner socyjalizmu Furje i katorym nie pawinna być miejsca ŭ zdarowym hramadzianstwie.

„Ci mahčyma“—pytajecca jon—„wyabrazić sabie bolš strašenny nieparadak, čymsia toj, jaki panuje na ziamnoj kuli? Što heta za hramadzianstwa—kożnaja častka jakoha dzieje

suproć inšych i soproć celaści, u jakim kožnają klasa žadaje tolki zadawolić swaje interesy, u jakim doktar žadaje chwaroby swaim hramadzianam, ksiondz—śmierci, suddzia—prastupleńnia, lichwiar hoładu, architektar pažaraŭ. Cywilizawany świet składajecca z naśmiešnikaŭ i ašukancaŭ".

Zapraŭdy, sučasny świet nia tolki składajeeca z ašukancaŭ, ale j kirujecca imi... Jon pieratworycca ŭ zdarowaje hramadzianstwa, kali kiraŭnictwa ŭsimi prajawami hramadzkaha žyćcia piarojdzie z ruk kapitalistaŭ eksploatataraŭ u ruki adpawiedna arhanizawanaha pracoŭnaha narodu. Tady kožny budzie mieć pracu i budue jaje mieć intelihentnyja i fachowyja pracaŭniki. Adno tolki možna pradbačyć, što ich budzie, asąbliwa na pačatku, wielmi mała, bo pry isnujučym stanie rečaŭ jany „pradukujucca" pierawažna dla absłužywańnia biurakratyčnaha aparatu, žjaŭlajučahasia dadatkam da kapitalistyčnaj haspadarki.

A dla hetaj apošniaj, jak bačym, chapaje, nawiet z liškam, i taho, što my majem.

**Pinčuk.**

# НЕ ЗЬМЯНІЛІСЯ.

Часта любяць палякі гаварыць і пісаць пра сваю гістарычную толеранцыю. Ці яна сапраўды была? Хто на гэтае пытаньне хоча мець праўдзівы адказ хай праглядзіць гісторыю праваслаўнай царквы на Беларусі, гісторыю вуніі, хай адкрые царкоўныя архівы пры манастырах і царквах, а тады будзе мець паняцьце аб польскай „толеранцыі" за часаў шляхоцка-панскага панаваньня.

Калі якая толеранцыя і была, дык яна была вымушаная рознымі Зэлязьнякамі, Хмельніцкімі. Справа ў тым, што тады была поўная шляхоцка-панская самаволя, не пазваляўшая ўвясьці ў жыцьцё нават таго, што хацеў кароль і што нават пастанаўлялі соймы. Дык калі і знаходзяцца толеранцыйныя гістарычныя распараджэньні каралёў або соймаў—на практыцы ў жыцьці ўсё залежала ад самаволі таго ці другога магната.

Гэтыя-ж былі толеранцыйнымі толькі да жыдоў. Праўда, у часы моднай на Беларусі рэформацыі паны, спачуваючыя ёй, адзначаліся пэўнай рэлігійнай толеранцыяй, за тое „повэтовалі" гэтую толеранцыю тады, калі падпалі пад уплыў езуітаў.

Найбольш агідна паступалі шляхоцкія беларускія рэнэгаты, якія, прыняўшы каталіцтва, адначасна з гэтым рабіліся палякамі, стараючыся навярнуць на тае самае другіх.

Усё гэта змушала беларусаў чынна бараніць сваей праваслаўнай веры і народнасьці, вынікам чаго католікам прыбыў новы сьвяты Язафат Кунцэвіч, каторага праваслаўныя беларусы ў абароне сваей веры забілі.

Для жыдоў запраўды была тады толеранцыя.

Паны аддавалі ім ў арэнду цэрквы. Ключы такой цэрквы знаходзіліся ў жыда, каторы за ўсякія рэлігійныя ўслугі сьвяшчэніка даставаў заплату.

Аддаваліся панамі ў арэнду ня толькі цэрквы але і зьбіраньне розных падаткаў. Такім спосабам н кароль а польскі пан і жыд былі запраўднымі гаспадарамі на беларусі.

Толькі ў адносінах да жыдоў можна цалком прытарнаваць гістарычную польскую „толеранцыю."

Як жа справа прадстаўляецца цяпер, у незалежнай Польшчы?

Цяпер таксама седзячы ў Кракаве, або ў Варшаве, чытаючы там польскую цяперашнюю канстытуцыю і розныя языковыя і іншыя законы, можна мець уражаньне аб толеранцыі. Такое напэўна ўражаньне атрымае чалавек у далёкай будучыні, чытаючы аб свабодзе друку, слова, арганізацыяў, аб роўнасьці ўсіх грамадзян у цяперашняй Польшчы і г. п.

Як жа ў запраўднасьці ёсьць?

Беларусам на гэтае пытаньне ня трэба адказываць. Адказывае ім іхняя душа і цела. Тут спомнім толькі адзін факт: і цяпер як і даўней захоўваецца традыцыйная панская толеранцыя ў адносінах да жыдоў, да беларусаў-жа такая самая „толеранцыя" якая была за часаў даўнейшага шляхоцка-панскага панаваньня.

Каб ня быць галаслоўным дамо пару прыкладаў сучасных адносінаў.

Ня будзем гаварыць аб школах, аб трактаваньні беларусаў у адшуканьні працы, дамо прыклад „толеранцыйнай" „swobody zrzeszenia się i organizacji".

Як ведама, цяпер кожны ацэнівае значэньне фізычнага выхаваньня. Усе народы маюць сотні спартовых арганізацыяў, маюць іх у

Польшчы і жыды. Толькі да беларусаў чамусьці „swoboda zrzeszenia się“ не стасуецца.

Прыклад: 12 красавіка 1930 году Віленскія беларусы залажылі гімнастычна-спартовае т-ва „Гайсак“ і падалі статут Т-ва да рэестру польскім уладам.

Адказ Віленскага Ваяводзтва з дня 12.VII 1930 г. вось які: ...„Na podstawie art. 18 Rozporządzenia Komisarza Generalnego Ziem Wschodnich z dnia 25 IX 1919 r. o stowarzyszeniach i związkach (Dz. U. Z. C. W. ex 1919 Nr. 25 poz. 255) odmawiam zarejestrowania statutu „Stowarzyszenia Gimnastyczno-Sportowego „Hajsak“...

**Wojewoda Wł. Raczkiewicz.**

Проста і ясна, бяз клопату і бяз тлумачэньняў—„odmawiam“. Што-ж кажа артыкул 18 на каторы паклікаюцца ўлады? Ён кажа, што кожнае таварыства мусіць быць зарэестравана, інакш ня мае права дзеяньня

Гэты артыкул з часаў яшчэ ваенных знанага камісара Осмалоўскага для „дабра“ беларусаў стасуецца і цяпер хаця ўжо 14 гадоў як няма вайны:

Заклaдчыкі „Гайсака“ думалі, што Варшава лепшая—падалі скаргу ў Варшаву.

На гэта пэ доўгім часе атрымалі з Ваеводзтва пісульку з дня 21 V 1931 г. гэткага зьместу.

„Niniejszem zawiadamiam Pana oraz pozostałych członków założycieli Stowarzyszenia Gimnastyczno-Sportowego „Hajsak,“ iż Ministerstwo Spraw Wewnętrznych decyzją główną z dnia 30 kwietnia rb. Nr. A.A. 1661/2 na podstawie art. 18 Rozporządzenia Komisarza Generalnego Ziem Wschodnich o stowarzyszeniach i związkach z dnia 25 września 1919 r. nie uwzględniło odwołania członków założycieli Stowarzyszenia p. n. „Stowarzyszenie Gimnastyczno-Sportowe, Hajsak“ w Wilnie od decyzji Wojewody Wileńskiego, z dnia 12 lipca 1930 r. Nr. V—330/30, odmawiającej zarejestrowania powyższego Stowarzyszenia i decyzję tę utrzymało w mocy...

Za Wojewodę Naczelnik
Wydziału T. Bruniewski

Тое самае „powoływanie się“ на ваенны артыкул Камісара Осмалоўскага.

Чаму паны ня хочуць каб беларусы разьвіваліся спартова, каб мелі сваю спартовую арганізацыю? Ці-ж-бы баяліся гэтага? Але-ж не павінны—за сільныя. Зрэшта хто ведае?—У страха вялія вочы, тымбольш маючы нечыстае сумленьне.

У той час калі беларусам не пазваляецца мець нават спартовага таварыства—жыдом можна рабіць аж ...вайсковыя манэўры.

Вось што пра гэта падае жыдоўская газэта „Момэнт“ з дня 21 II 34 г. „Brith Trumpeldor“ у Польшчы распачаў прыгатаваньні да першых вайсковых сусьветных манэўраў, якія адбудуцца ў Залешчыках сёлета ў ліпні.

На гэтыя вайсковыя вучэньні прыракалі прыбыць сябры арганізацыяў „Br. Tr“. з 15 дзяржаваў, мяноўна: Румыніі, Латвіі, Літвы, Баўгарыі, Чэхіі, Аўстрыі, Вугры, Канады. Злучаных Станаў Амэрыкі, Паўдзённай Афрыкі і г. д. з Харбіна прыедзе 40 умундзіраваных трумпэльдорчыкаў, з Палястыны панад 200.

Каманду манэўрамі абыйме Жаботінскі, Шэхгман, Гофман і Пропэс.

У часе тых манэўраў адбудзецца сусьветная канфэрэнцыя сяброў „Brith Trumpeldor“.

Узяўшы пад увагу дакуманты „Гайсака“ прыпомніўшы такую самую долю Т-ва Беларускай Моладзі „Будычыня“ і Т-ва Беларусаў Абсальвэнтаў Вышшых Школаў, якое ўжо некалькі гадоў ня можа дачакацца сваей рэестрацыі, параўнаўшы ўсё гэта з жыдоўскімі манэўрамі — пераканаемся, што сапраўды гістарычныя адносіны да жыдоў і беларусаў даўнай шляхоцка панскай Польшчы і Польшчы цяперашняй „дэмакратычнай“ зусім не зьмяніліся. Цяцерашнія паны годна трымаюцца традыцыяў сваіх „przedrozbiorowych“ продкаў прывёўшых да згубы Рэчпаспалітую.

**K.**



**Кожны спагадаючы нацыянал-соцыялізму павінен падтрымліваць сваю часопісь.**



# Wiasna 1934 h.

Stolki drewaŭ i kwietak raśćwiŭšych,
Stolki sonca pramieńniaŭ radosnych!
A nawokał šmat sercaŭ samleŭšych,
Šmat niawoli i ździekaŭ niaznosnych.

Hej, wiasna, ty strymaj swaje kwietki!
Nie dawaj im ćwiści, krasawacca —
Kali našy ŭ niawoli paletki,
Kali zmušany hirsie paddacca.

Kazłoŭščyk.

# ЖЫДЫ НА БЕЛАРУСІ.

Шмат якіх прычын (на каторых пакульшто мы затрымлівацца ня будзем) прывяло да таго, што сярод беларускага грамадзянства знаходзяць шырокае распаўсюджаньне думкі зусім не адпавядаючыя ня толькі фактычнаму стану рэчаў у нашым краі, але й гістарычнай праўдзе. Сюды трэба аднесьці занатта патураючыя, калі не сказаць большага адносіны з боку „радыкальнай" часткі нашага, грамадзянства да жыдоўства і зусім не бесстароньняе высьвятленьне гістарычных фактаў датычна гэтага народу.

У многіх выпадках разважаньні па жыдоўскаму пытаньню падобны да падгатоўкі псыхолёгічнага грунту для панаваньня Ізраіля на нашых землях...

Наагул трэба заўважыць, што ўся камуністычная прэса (кіраваная пераважна жыдамі й масонамі стараецца зусім у фальшывым сьвятле абрысаваць роль жыдоў ў грамадзкім жыцьці.

Абгаварваючы справу пашыраючагася антысэмітызму, абаронцы жыдоў бачаць яго прычыну ў сучасным крызысе, які выклікаў абядненьне народных масаў усяго сьвету. Каб абураныя і галодныя масы, шукаючы прычыны сваяго няшчасьця ня трапілі, часам, на правідловы шлях і не знашлі яе ў сучасным буржуазна—капіталістычным ладзе рэакцыйныя і шовіністычныя групы пануючых клясаў скіроўваюць іхнюю ўвагу на жыдоў, як галоўных віноўнікаў крызысу.

Адсюль, па тлумачэньню „радыкальных" і камуністычных публіцыстаў, бярэ свой пачатак антысэмітызм.

Гэтакі ўпрошчаны пагляд на жыдоўскую справу зусім не адпавядае гістарычнай праўдзе, бо антысэміцкія настроі, як ведама наглядаліся яшчэ тады, калі людзі наагул ня ведалі ніякіх эканамічных крызысаў.

Ненавісьць да жыдоў выклікалася ўсюды тою эксплёататарскаю роляй, якую яны адыгралі ва ўсіх краёх, дзе толькі пасяляліся.

Асабліва яны даліся ў знакі на беларускіх і украінскіх землях, на што мы маем бязлікую колькасьць праверaных і гістарычна-правідловых доказаў.

Жыды зьявіліся на нашых землях маючы ў сябе грашовы капітал, дзякуючы якому яны адразу занялі тут упрывіліяванае становішча.

Ужо у 14 і 15 стагодзьдзях іхнія правы акрэсьляюцца асобнымі прывілеямі, якія былі дадзены ім в. князем літоўскім Вітаўтам.

Паводлуг гэтых прывілеяў жыды сасгаўлялі грамаду свабодных жыхароў, беспасярэдна падпарадкаваную вялікаму князю і ўстаноўляным ад яго уладам. Яны карыстаюцца з шырокай аўтаноміі ў сваіх рэлігіных і маемасных справах.

У справах карных падлягаюць юрысдыкцыі вялікага князя, старасты ці падстарасты.

У канцы 14 стаг. і на пачатку 15-га існуе ўжо 5 моцных жыдоўскіх грамад: Троцкая, Берасьцейская, Горадзенская, Луцкая і Уладзімірская. З часам колькасьць іх павялічваецца. Асабістая нятыкальнасьць жыдоў сьцераглася ўладамі і, напрыклад, за забойства жыда належала кара сьмерці і канфіската ўсей маемасьці забойцы.

За параненьне жыда, калі гэтага дапусьціўся хрысьціянін, вінавайца, акрамя штрафу на карысьць вялікага князя, быў абавязаны заплаціць жыду столькі, сколькі плаціласяў такіх выпадках шляхцічу.

Хаты жыдоўскія звальняліся ад вайсковага пастою, а самі жыды ў войску не служылі, адкупаючыся грашмі,

Яны займаліся ня толькі гандлем, і ліхвярствам (што было галоўнаю іхняю прафэсіяю,) але ім было дазволена рэмясло і ніхто не забараняў працаваць на ралі. Найбольш багатыя жыды бралі на сябе адкупы мытаў ў гэтакі спосаб прыбіралі да сваіх рук гаспадарчае жыцьцё краю.

Гэтак, напрыклад, у в. князя Вітаўта галоўным адкупшчыкам быў праз некі час жыд Шаня, атрымаўшы ад яго на ўласнасьць сёлы Віньнікі і Калусаў (Уладзімірскага павету) разам з падданымі сялянамі.

Разбагацеўшыя на адкупах і ад ліхвярства жыды вытвараюць з пасярод сябе нават абшарніцтва, скупляўшае ад шляхты двары разам з прыгонным сялянствам.

Іхняе багатае жыцьцё выклікала зайздрасьць ня толькі сярод агалелага сялянства, але й сярод шляхты, трациўшай сваю эканамічную моц на карысьць жыдоў.

У 1495 г. даходзіць да таго, што в. князь Аляксандар прыказаў выгнаць усіх жыдоў з Літоўска-Беларускай дзяржавы.

Гэтакае распараджэньне мела сваёю мэтаю ачысьціць дзяржаву ад жыдоўскай павуціны, каторая яна была апугана і ад каторай цярпела ўсё насельніцтва. У сувязі з абраньнем у 1501 г. в. кн. Аляксандра польскім каралём — ў 1503 г. жыдам было пазволена вярнуцца назад з захаваньнем усіх ранейшых правоў.

Тлумачыцца гэта моцнымі ўплывамі польскіх жыдоў на в. князя, а галоўнае адсутнасьцю сродкаў у Літоўска-Беларускім скарбе на вядзеньне вайны з Масквою. Жыдом заахвяраваўшым вялікія грошы за паварот — пашлі на ўступкі і жыды вярнуліся яшчэ больш з'арганізаваныя і моцныя, чым былі перад тым.

Для больш яснага ўсьведамленьня заправуднай ролі жыдоў у мінуўшчыне варта прывясьці тут вельмі красамоўныя паказаньні тагачасных сьведкаў.

Вось што кажа, напрыклад, адзін з гэтых сьведкаў Міхалон Літвін.

„У гэту краіну сабраўся адусюль самы дрэнны з усіх народаў — народ вераломны, хітры, шкадлівы, які псуе нашы тавары, падрабляе нашы грошы, пячаці, на ўсіх рынках адбірае ў хрысьціян сродкі да жыцьця, ня знае іншага мастацтва акрамя ілжы

і ашуканства." Прыблізна тое самэе кажа пра жыдоў і тагачасны пісьменьнік Клеановіч „Тут ілжывы абразанец жыве...

Тут ягоная сінагога агалошваецца сіплым ровам і разнаякім мычаньнем, выпрашваючым ў неба ўсялякіх дараў.

„Быць можа, ты спытаеш, што робіць жыд у гэтым слаўным горадзе?

А тое самое, што робіць воўк, папаўшы ў поўную аўчарню. За пасярэдніцтвам даўгоў да яго пападаюць у заклад цэлыя гарады; ён прыцясьняе іх працэнтамі, сее галіту. Рабак павольна точыць дрэва і памалу зьядае дуб, але хутка заводзіць гніль. Ад молі гінуць тканіны, ад іржы псуецца жалеза.

Гэтак непрадукцыйна жыд пажырае прыватную маемасьць, высмоктвае грамадзкія багацьці. Позна браліся за розум расьцярушаныя гасудары і пачынала стагнаць дзяржава навучаная бядою.

Яна павернена да долу як цела, пазбаўленае крыві, няма больш сілаў і жыцьцёвых сокаў".

Так выглядаюць жыды ў мінуўшчыні па апісаньням тагачасьнікаў і таму няма нічога дзіўнага, што найбольш папулярным падчас паўстаньня Багдана Хмельніцкага, нароўні са скасаваньнем вуніі, было дамаганьне, **каб на ўсёй Украіне не засталося аніводнага жыда.**

Паўстаньне Б. Хмельніцкага (таксама як і папярэднія паўстаньні Налівайкі і іншых) трэ', фактычна, разглядаць як рэвалюцыю проці ўціску украінскіх і беларускіх сялянскіх масаў ня толькі польскімі панамі, але й жыдамі, каторыя былі ў цеснай супалцы з першымі. Эксплёатацыя з боку жыдоў мела настолькі падатны грунт і пасунулася так далёка, што напрыклад, яны трымалі ў арэндзе нават праваслаўныя цэрквы, пабіраючы ад парахвіянаў плату за кожнае багаслужэньне.

Пераходзючы да сучаснасьці, трэба, перадусім, адзначыць той факт, што на нашых землях жыды, таксама як і раней, выступаюць пераважна ў ролі гандляроў і ліхвяроў. Вядома, напрыклад, што 95 проц. гандлёвых і прамысловых прадпрыемстваў нашага краю снаходзіцца ў руках жыдоў, а больш 90 прц. усяго жыдоўскага насельніцтва працуе ў гэтай галіне.

Падобнага роду факт прамаўляе сам за сябе і даводзіць, што жыды зьяўляюцца ў нас у ролі эксплёататараў, ад якіх найбольш церпяць сялянскія, пераважна беларускія масы.

Жыдоўскага пролетарыяту ў нас амаль няма, а калі і ёсьць некі нязначны працэнт, дык і той мае імкненьне да пературварэньня ў дробна—гандлярскую клясу, з якою беларускаму сялянству „не па-дарозе". Трэба зазначыць, што да сёньняшняга дня жыдоўскі народ, бяз розьніцы клясаў уяўляе з сябе надзвычай моцную і нацыянальна-скансалідаваную грамаду, каторая, творачы як быццам дзяржаву ў дзяржаве, усьцяж пашырае свае правы.

Жыды ў цэлым карыстаюцца ў межах Польшчы асабліва ў апошнія часы з вялікай апекі ўрадовых колаў, доказам чаго можа служыць, напрыклад, афіцыяльнае асьведчаньне міністра Бэка, якое ім было дадзена прадстаўніком жыдоўскай прэсы у 1931 г.

Тагачасны віцэ-міністр заграгічных спраў п. Бек сказаў між іншым наступнае:

„Імкнучыся да асягненьня сардэчных адносінаў паміж польскім урадам і жыдоўскім грамадзянствам, польскі ўрад аднаўляе толькі старадаўную традыцыю. У розных заданьнях, якія дзяржава мае вырашыць — зьвяртаецца па вытычныя да гісторыі нашага народу. Ні ў адной дзяржаве прыязныя адносіны да жыдоў не адзначыліся ў такой ступені, як у нашым краі, які прыня да сябе жыдоў яшчэ ў сярэднявеччы...

Зразумелая рэч, што гэта ўсё ня можа зрабіцца ў працягу аднаго дня. Нядаўна былі скасаваны царскія агранічэньні. Наступяць яшчэ далейшыя крокі ў кірунку направы гаспадарчай сытуацыі жыдоў, каторая ёсьць запраўды цяжкаю". (Gazeta Warszawska 1 kwietnia 1931 г.)

На жаль, беларускі народ ня можа падобна жыдом, пахваліцца такімі „традыцыйнымі" да сябе адносінамі, каторыя са слоў самаго прадстаўніка польскага ўраду маюць зусім „serdeczny" характар...

І дзеля таго, на нашу думку, гістарычныя шляхі жыдоўскага народу і беларускага не саўпадаюць...

Крытычна адносячыся да ролі жыдоў у нашым грамадзкім жыцьці, мы аднак, не настолькі наіўны, каб бачылі, (як гэта здаецца камунізуючым фантазёрам), у голым факце існаваньня на сьвеце жыдоўскай расы— галоўную прычыну крызысу.

Але з другога боку мы ня так вялікія „дэмакраты", каб ня бачыць таго бяссумліўнага факту, што жыды паскольку яны сабралі ў сваіх руках увесь гандлёвы і ліхвярскі капітал—выступаюць на нашых землях у ролі эксплёататарскай і ніякай іншай.

Ведама нам і тое, што толькі дзякуючы моцна зарганізаванаму жыдоўскаму капіталу ня можа паўстаць беларуская коопэрацыя, каторая заўсёды падпадала і будзе падпадаць пад жорсткую атаку з боку жыдоўскага кагалу.

Няма ў нас сумліву, што затрыманьне разьвіцьця коопэратыўнага будаўніцтва шмат прычыняецца да зпаглыбленьня сельска-гаспадарчага крызысу.

Паскольку жыды як гандлёвая кляса выступаюць у нас у ролі ворагаў коопэрацыі— тым самым яны прычыняюцца да абяднення беларускіх сялянскіх масаў. „Нямашака дыму без вагня"—і таму немагчыма ня прызнаць у пэўнай меры за слушныя тыя з абвінавачаньняў, якія кіруюцца народам проці жыдоў як віноўнікаў паглыбленьня сучаснага крызысу ў земляробстве.

Роль жыдоў у беларускім грамадзкім і эканамічным жыцьці заўсёды была ад'ёмнаю і застаецца такою да сёньняшняга дня.

У гэтым трэба аткрыта прызнацца, не баючыся абвінавачаньняў у г. зв. юдафобстве з боку „радыкальных", і „дэмакратычных" колаў нашага грамадзянства, перабллутаўшых інтарэсы працоўных масаў з інтарэсамі жыдоўскіх ліхвяроў і спэкулянтаў.

**Ф. А.**

Рэдактар і выдавец: Ул. Казлоўскі. Druk. K. Lewkowicza Галоўны рэд.: Рэдакцыйная Калегія